№ 24. Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.
Адрэс рэдакції: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрації і экспэдыції: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:
на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 24 (116). Год II. Вільня, 23 марца 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## Анархія у Расеі.

### 22 марца.

**Заходні тэатр:**

Між Ленс і Аррас жывы артылерыйскі агонь і схваткі старожы. Пры Шывр і Міссэ, на паўночным бэрэзі Энь, адкінуты францускіе батальёны. На левым бэрэзі Маас затрыман агнём ладжэный воражый штурм. Пры канале Энь — Марн, на паўночны ўсход ад Вэрдэну, пры Сан-Мель і на заходным склоне Вогезоў, нашы старожы узялі 40 палонных.

---

Збіты тры воражые самалёты. Самалёт с прынцам Фрыдрыхам Каролям Прускім не вярнуўся назад.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* Пры Забярэзіні, на ўсход ад Ліды, нашы кампаніі, на шырыне 4 кілёмэтроў, уварваліся праз пярэдніе расейскіе акопы да другой лініі. Зруйнавалі усе укрэпленьня і вярнуліся назад з 225 палоннымі, 2 гарматамі, 6 кулемётамі і 14 мінамётамі.

На фронтах *эрц-гэрцога Іозэфа* і *Макензэна*: Баевая работа ізноў ажывілася.

*Македонскі фронт*: Адбіты усе сільные францускіе аттакі на ўзятые намі 20 марца высоты, на поўнач ад Манастыра.

---

### З Расеі.

ЦУРЫХ. **Расейскі урад зрабіў з работніцкай партіей умову па каторай** агульные выбары павінны адбыцца не пазьней трох месяцоў.

У маніфэсці соцыял-рэволюцыонероў ёсць ярые нападкі на цяперашні урад, ён канчаецца славамі: „Работнікі, вы насіцелі расейскаго перэвароту, вам патрэбен хлеб, воля, згода! Ня верце абецанкам мешчанства, гатуйцеся выпоўніць загады Работніцкаго Камітэту. Мы хочэм натыхмейсцоваго пачатку перэгавороў аб згодзе. Расейскаму народу німа ніякай карысьці у крывавай ўсесьветнай вайне“.

ЖЭНЭВА. Армэйскіе кругі і высокае духавенство у Расеі стаяць за апавешчэньне царам Мікалая Мікалаевіча; шмат дэпутатоў гэтак сама стаяць за яго, але крайняя левая наагул супроць дынастыі, апрыч таго Мікалай Мікалаевіч сваім дыктатарскім характарам ня люб ей. Дыплёмація саюзьнікоў у Пецярбурзе падтрымлівае яго кандыдатуру.

КОПЭНГАГА. Расейскіе газэты называюць цара—„Мікалай Романов“.

ШТОКГОЛЬМ. Кіеў прылучыўся да новаго ураду; у Адессі-ж ідуць ешчэ бітвы на вуліцах.

Быўшый ваенны міністар, Поліванов, назначэн памочнікам Гучкова.

ГАПАРАНДА. Пасля таго як Родічэў абецаў Фінляндзіі адбудаваньне конституціі, фінляндцы цяпер згаджаюцц даваць афіцэроў і салдатоў для абароны дзержавы, але толькі у форме фінляндзкай національнай арміі.

ПЕЦЯРБУРГ. Тымчасовы урад выдаў адзін указ аб агульнай палітычнай амністыі і маніфэст аб адбудаваньні фінляндзкай констытуції, абецаючы у найбліжэйшым часе склік фінляндзкаго сэйма.

Спаўніцельны Камітэт Думы паслаў у кожную губэрнію каміcароў, якіе будуць пасрэднікамі між правінціей і сталічным урадам. У Пецярбург падвозяць многа харчоў і прадаюць іх па нізкіх цэнах дробным крамнікам.

### У Амэрыцы.

ВАШЫНГТОН. Прэзыдэнт Вільсон назначыў уздоймнае заседаньне Конгрэсу на другое красавіка.

НЬЮ-ІОРК. Амэрыканскі ваенны дэпартамэнт выдаў загад аб падгатоўцы арганізації міліції. С пэўных крыніц лічаць, што Амэрыка развяжэ конфлікт с сярэдне-эўропэйскімі дзержавамі ў сэнсе вайны.

---

### На тэму дня.

Расейскі перэварот нарабіў гэтулькі гуку па газэтах і між людзьмі, што адсунуў на другі плян цікавасць да вайны. Ды трэба прызнацца, што за тры гады вайна такі ўсім даволі праелася і бадай найболей-бы зацікавіла ўсе народы сьвету вестка не аб якой небудзь надзвычайнай удачы, тэй ці іншай староны, скольві вестка аб сэрдэчна жаданай згодзе. Цікавасць да расейскаго перэвароту гэтак сама цесна звязана с пытаньнем: ці не прыблізіць гэто канца вайны? Разгляданы у гэтай плоскасьці расейскі перэварот насувае самые супярэчные думкі.

З аднаго боку саюзнікі Расеі— Англія і Францiя запэўняюць нас, што перэварот азначае перамогу ваеннай партіі у Расеі, а значэ прадоўжэньне ешчэ вайны на неустаноўлены час. З другога боку, як усе народы сьвету, так і расейскі народ змучыўся гэтай вайной і дабіваецца згоды. Рэволюція на абязсілеўшый расейскі народ, гэто тое самае, што пуга галоднаму, зморэнаму каню. Сілы яна не дасць, а толькі можэ змусіць стрэпянуцца, а пасля ізноў ён стане жадаючы атпачынку і хлеба. Каб намечэные у Расеі рэформы выпалі разам са згодай, то можна было-б чэкаць багатых пладоў ад іх, але вясьці перэбудоўку дзержавы і адначасна вясці гэткую цяжкую вайну—справа немагчымая нідзе на свеці, а тым болей у Расеі маючай гэткіе рознародные національные, рэлігійные, становые і краёвые інтэрэсы. Гэто ўсё паказвае, што на цяперэшнім перэвароце ня скончыцца у Расеі, што працэсс формаваньняся новаго ладу зацягнецца, калі саўсім не разаб'ецца аб ўнутрэнные замешкі. І з усяго гэтаго, здаецца, адно толькі пэўнае, што згода ешчэ адцягнецца на нейкі час далей.

*В—л.*

---

### Вячэрные мысьлі.

Прыйшлося мне у гэтую зіму быць раз на «гвяздцы» у адным віленскім прытулку (ахронцы). Прыслухаўся я як нашые дзяўчынкі і хлопцы, каторые не знаюць ешчэ саўсім мест і рэк сваей бацькаўшчыны, пеялі ўжо песьні аб Карпатах, а Візьле, а Варшаве і Домброві. Глядзеў я на штучку як паня «варшаўская Мацеёва» літавалася над двумя хлопцамі, каторые, як паведоміла мне, з вялікім расчуленьнем адна с пань ахранярак, мелі с сябе прэдстаўляць «Пяскароў з над Віслы»; глядзеў я і прыслухоўываўся, а за сэрце штосьці крэпка сціскало і як ня мело сціскаць, калі тут ясна відаць работу «польскай гістарычнай місіі». Даўнейшую работу абрусіцелёў схапілі цяпер у свае рукі прыбышы палякі, каторым Вілья і Нёман чужы, каторым імпонуюць басякі з над Віслы.

Аднач ведайце, вы місіонеры і місіонеркі, што воўка да лесу цягне. Маеце ужо прыклад, што неглядзя на вашу доўгалетнюю працу, не глядзя на цяжкіе варункі жыцьця і вялікую вашу агітацію з нашаго Краю саўсім наагул мало выехало народу, а і тые—што выехалі у добрай веры памагаць вам у адбудаваньні вашай бацькоўшчыны—на адзін толькі прызыў, вернуцца будаваць сваю бацькоўшчыну. Ведайце і тое місіонеры і місіонеркі, што дзеці нашы як падрастуць і пазнаюць красу свайго Краю, у душах сваіх пачуюць да вас жаль. Так як нас не цягне да Волгі, так дзяцей нашых і Вісла не пацягне, а кляймом, якім мы клямілі абрусіцелёў дзеці нашы будуць кляйміць вас.

*Лабуць.*

---

### Абычаёвае право беларускаго селянства.

Палажэньне кабеты у беларускай сям'і даволі выдатнае. У вялікіх сем'ях матка-гаспадыня, ці прост нават гаспадыня, займае першае мейсцо пасьля гаспадара, а у малых сем'ях (малая сем'я — муж з жонкай і іх дзеці), палажэньне маці і гаспадыні нават пераважаючае над бацькам-гаспадаром. Прыгэтым абычай даволі акуратна раздзяліў компэтэнцію гаспадара і гаспадыні. Калі на руках гаспадара ляжыць уся палевая гаспадарка і прэдстаўніцтво сям'і па за домам, то на гаспадыні ляжыць увесь лад і парадак у хаці і прэдстаўніцтво хаты перад чужымі. Апрача гэтаго гаспадыня апекуецца усей жаночай сям'ёй і нават хопцамі да таго часу, пакуль яны не стануцца памочнікамі гаспадара у полі.

Гаспадыня мае і асобную сваю ўласнасць «бонду» у гаспадарцы. На «бонду» гаспадыні складаецца у першы чарод яе рухомы пасаг (земля лічыцца ўласнасьцю сям'і), а пасьля даход з жаночай гаспадаркі: малочных прадуктоў, птушарства, воўны авечай і шэрсці свінной (конскіе валасы—ўласнасць гаспадара),—гародніны, канапель і лёну, калі лён ня сеецца с прамысловай мэтай, а калі сеецца с прамысловай мэтай лён, то

